ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Студзень, 2016

## ДЭПУТАТЫ І ПРАВЫ БЕЛАРУСКАМОЎНЫХ СПАЖЫЎЦОЎ

- Пазіцыя дэпутата Наумовіча

- Пазіцыя дэпутата Мурашка

- Пазіцыя дэпутата Сенькевіча



ДЭПУТАТ
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ
вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск

РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ДЕПУТАТ
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ
ул. Советская, 11, 220010, г. Минск

01.12.2015 № 204

Случаку І.У.
246012 г. Гомель

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Ваш зварот па пытанні аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь “Аб абароне правоў спажыўцоў” мной разгледжаны.

У адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы. Прынцыпы роўнасці дзяржаўных моў і свабоды выбару дзяржаўнай мовы для зносін і выкарыстання ў прафесійных (вытворчых) мэтах рэалізаваны ў Законе «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», у адпаведнасці з якім альтэрнатыўнае выкарыстанне беларускай і рускай мовы забяспечваецца ў маркіроўцы тавараў.

Такім чынам, выкарыстанне ў маркіроўцы тавараў дзвюх дзяржаўных моў або на выбар адной з дзяржаўных моў адказвае агульным падыходам выкарыстання дзяржаўных моў у прафесійнай (вытворчай) дзейнасці.

Неабходна адзначыць, што ўвядзенне абавязкі па выкарыстанні ў маркіроўцы тавараў дзвюх дзяржаўных моў запатрабуе ўнясення змяненняў у маркіроўку большасці беларускіх тавараў, што пацягне істотныя выдаткі айчынных прадпрыемстваў на вытворчасць новай упакоўкі, этыкетак і падвысіць кошт беларускіх тавараў.

Я мяркую, што прадстаўленыя Вамі прапановы па ўнясенню змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў" недастаткова абгрунтаваныя.

Разам з тым паведамляю Вам, што пры чарговай комплекснай дапрацоўцы Закона Рэспублікі Беларусь "Аб абароне правоў спажыўцоў" (такая дапрацоўка плануецца ў 2016 годзе) дадзеныя прапановы будуць дадаткова абмеркаваны з Міністэрствам культуры, Міністэрствам прамысловасці, Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання, канцэрнам "Белдзяржхарчпрам", "Беллегпрам" і іншымі зацікаўленымі.

З павагай,
Дэпутат І.Мурашка

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ
вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ
ул. Советская, 11, 220010, г. Минск

---

5.01.2016 г. №________

Случаку І.У.



Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Ваша прапанова патрабуе ўсебаковай прапрацоўкі і шырокага вывучэння сярод вытворцаў і спажыўцоў.

У выпадку ўнясення ў Палату прадстаўнікоў законапраекта прыму актыўны ўдзел у яго абмеркаванні.

Прапануемыя Вамі змяненні, на мой погляд, маюць пад сабой падставу.

З павагай,

Дэпутат — [подпіс] — Э.А.Сенькевіч

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ДЭПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

вул. Савецкая, 11, 220010, г. Мінск

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ДЕПУТАТ**
ПАЛАТЫ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ

ул. Советская, 11, 220010, г. Минск

---

17.12.2015 № Д-57

Случаку І. У.

246012, г. Гомель

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

На Ваш зварот па пытанні ўнясення змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» паведамляю, што Пастаяннай камісіяй Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па жыллёвай палітыцы і будаўніцтве ад імя Палаты прадстаўнікоў был дадзены адказ па ўзнятых пытаннях.

Я падтрымліваю выказаную пазіцыю Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па жыллёвай палітыцы і будаўніцтве па пытаннях, выказаных камісіяй раней.

З павагай,

Дэпутат А.М.Наумовіч

M&S MEDIA

Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя "Справаводства па-Беларуску"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html

**Архіў УКантакце:**
http://vk.com/docs?oid=-19441275

*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

M&S MEDIA